**Віктар РЭЧЫЦ**

# “НОВЫ” ГУСАК

*Байка*

Бабёр – стваральнік фірмы «Дрывасек» –
Гадоў таму назад мо сем
Стаў лес ахвотна пілаваць,
З яго матэрыялы прадаваць.
Вядомасць добрую прыдбаў...
І вось Гусак на фірму завітаў.
На лапе – бранзалет, а на папрузе –
бляшка,
У сумцы ж – дарагая пляшка.
Сказаў Бабру:
– Паказвай свой тавар.
Патрэбны мне і дошкі, і вагонка.
Заўваж: частую я не самагонкай!
Зірнуў наведвальнік – аж выцягнуўся твар:
– Я не вазьму тавар такі,
Бо там і тут – сукі, сукі...
– Павер мне, памыляешся ты, браце:
Аздобе нададуць яны багацце, –
Бабёр стараўся ветліва казаць. –
Вагонкай сцены ашалюеш –
Утульнасць, цеплыню адчуеш.
Ды Гусака было ўжо не стрымаць:
– Сукамі я сяброў здзіўлю,
Калі па-твойму ўсё зраблю?
Мяне на смех падыме госць!..
– Паслухай. Ведаць ты павінен:
На кожным дрэве ёсць галіны,
А значыць – і сукі там ёсць.
– Я грошы добрыя плачу,
Тавар мець якасны хачу! –
Гусак узбуджана адсек,
Пакінуў фірму «Дрывасек».
Але... прыйшоў праз месяц зноў,
Бо лепшага ён не знайшоў.
***
Пра «новых» многа ходзіць анекдотаў,
Ім пахваліцца вельмі ўжо ахвота.
Ды што яны пакажуць, стаўшы ў позу?
Вядома, грошы, а няхай бы – розум.

*г. Івацэвічы.*

**2018**

**СТУДЗЕНЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |





Алег ПАПОЎ.




Аляксандр ПЯТРОЎ.



Алег ГУЦОЛ.



Алег КАРПОВІЧ.



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## 2018

| ЛЮТЫ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |






## Невядомая вадкасць

Следчы робіць агляд месца здарэння, а яго напарнік запісвае ў пратакол: «На стале была знойдзена бутэлька «Зуброўкі».

– Пачакай, – кажа следчы, – трэба ж пакаштаваць, можа, там увогуле звычайная вада. Гэта вельмі важна для справы.

Глынуў і кажа:

– Не, усё правільна напісалі. Сапраўдная «Зуброўка».

– А мне здаецца, што гэта «Пярцоўка», – прамовіў напарнік і глынуў напой.

– Не можа быць! – здзівіўся следчы і яшчэ раз прыклаўся да бутэлькі.

– Кажу табе, што «Пярцоўка», – пераконваў яго напарнік.

У выніку следчы махнуў рукой і сказаў:

– Пішы ў пратакол, што на стале была знойдзена бутэлька з рэштай невядомай вадкасці.

## Ахвяра прагрэсу

З размовы двух сяброў.

– Зараз, напэўна, лягчэй стала працаваць, калі маеш пад рукой мабільны тэлефон. Па ім можна аператыўна вырашыць любое пытанне.

– Можа, і так. Але раней, калі я хацеў пакімарыць на працы, дык мог схавацца дзе-небудзь на складзе і паспаць якую гадзіну. А з гэтай цацкай і на пяць хвілін вачэй не звядзеш, усім адразу станаўлюся патрэбен.

**Даслаў Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*






Мікола ГІРГЕЛЬ.




Юрый МІХАЙЛАЎ.









Пётр КОЗІЧ х 3.

# СУЧАСНАЕ ШЧАСЦЕ

З табой шчаслівы я без меры,
Мая ты ўтульная кватэра.
Мне днём і ноччу тут выгода –
Навошта ехаць на прыроду?

Тут бытавыя ёсць прыборы,
З якімі я не знаю гора:
Яны памыюць, прыгатуюць,
Раскажуць навіну любую...

Пры іх адсутнасці, вядома,
Патрэбна ўсё рабіць самому.
Хаця, па даўняй завядзёнцы,
Наш быт трымаецца на жонцы.

Купіў ёй шафу духавую –
Яна прысмакамі частуе.
Набыў ёй пральную машынку –
Хажу чысцюткі, як з карцінкі!

Таму шчаслівыя мы ўтрох:
Я, жонка, родны наш парог.
І ні на якую халеру
Сваю я не змяню кватэру!

**Генрых ТАРАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*

# Васілю ТКАЧОВУ — 70!




*Віншуем з 70-годдзем добрага сябра «Вожыка», празаіка і драматурга Васіля Ткачова. Яго можна лічыць самым навагоднім пісьменнікам, бо нарадзіўся ён 1 студзеня. Таму прапануем вам правесці гэта свята ў кампаніі з героямі гумарэскі Васіля Ткачова. Мы ўпэўнены, што 2018 год пасля гэтага будзе напоўнены шчырымі ўсмешкамі і пазітывам.*

*Жадаем юбіляру здароўя, добрага самаадчування, новых творчых планаў, каб муза заўсёды была побач, а творы здзіўлялі чытачоў сваёй задумкай.*

**Васіль ТКАЧОЎ**

## Ганарар

*Гумарэска*

Празаік Сцёпкін атрымаў ганарар за раман, які надрукавалі ў даволі знакамітым часопісе. Пісьменнік прынёс запоўнены грашыма дыпламат дадому, стомлена плюхнуўся ў крэсла, выцер насоўкай лоб.

— Фу-у, ледзь датупаў, — уздыхнуў ён і ўказаў на ношу, — Кацюша, падымі, тут жа кілаграмаў пятнаццаць, не менш. У касе, праўда, не лічыў, бо да раніцы не паспеў бы з маімі матэматычнымі здольнасцямі.

Жонка была на сёмым небе ад шчасця. Калі ўбачыла грошы, у яе спярша адняло мову, а потым жанчына пачала ўсміхацца. Калі яна бачыла такую суму? Мо толькі ў кіно. Ці ў Якубовіча на «Полі цудаў». А гэта ж свае! Бяры, размяркоўвай, якія дзіркі ў сямейным бюджэце зацыраваць.

— Яначка, мой родненькі, які ж малайчына! — жонка пацалавала мужа. — Хай табе здароўечка Бог дае. Можаш нават выпіць сёння сто грамаў.

Сцёпкін задаволена затрос галавой. Жонка перакуліла дыпламат, грошы рассыпаліся па часопісным століку. Яна яшчэ пэўны час, нібы зачараваная, дзівілася на іх, а потым падхапіла мужа пад руку:

— Хутчэй абедаць! Ты сёння зарабіў!

Не паспелі Сцёпкіны сесці за стол, як пазваніў сын, перадаў прывітанне ад жонкі і ўнука, а потым, нібы між іншым, пацікавіўся:

— Тата ганарар атрымаў?

Паколькі ў гэтую хвіліну пісьменнік наліваў у чарку свае законныя сто грамаў, а маці размаўляла па тэлефоне, то яна крадком зірнула на мужа, паўшэптам сказала:

— Атрымаў...

Хутка ўспомніла пра бацькоў дачка. Патэлефанавала, маўляў, жывая, здаровая, у сям'і ўсё добра. Пра ганарар таксама пацікавілася. Паабяцала прыехаць, адведаць старых.

Шумна зрабілася неўзабаве ў кватэры Сцёпкіных, прыехалі родныя: дачка, сын, зяць, нявестка і ўнукі заявіліся амаль адначасова, быццам згаварыліся. Былі нават пацалункі, якіх раней бацькі не бачылі. Потым усе ўладкаваліся за сталом. Пад гэтую гамонку пісьменнік прапусціў чарачку. Жонка нават праслязілася: «Бедненькія мае, замораныя, працуеце за капейкі». Сцёпкін маўчаў. Ён прапусціў яшчэ сто грамаў, узняўся з месца і папрасіў увагі:

— Грошай я вам падкіну. Але! Спярша скажыце, як называецца мой раман, за які я атрымаў ганарар?

Усталявалася хвіліна маўчання.

— Ну? — патрабавальна запытаў пісьменнік.

— Тата, якая розніца, як называецца? — прытулілася да пляча дачка, пяшчотна пагладзіла апошнія кудзеркі на ягонай галаве. — Галоўнае, ты талент! Мы ўсе ганарымся табой!

Дарослыя запляскалі ў ладкі.

— Дзякуй! — узняў руку Сцёпкін. — Прыемна пачуць такія словы. Але хто чытаў гэты раман? — ён нетаропка агледзеў кожнага, хто сядзеў за сталом, і пашкадаваў, што вытыркнуўся з такім недарэчным пытаннем: калі нават назвы ніхто не ведае, то дзе ж там пра змест цікавіцца. — Эх, ганарарныя вы дзеці...

Ён вылез з-за стала, узяў на століку часопісы з надрукаваным раманам, паторкаў іх у рукі сыну, нявестцы, дачцэ, зяцю.

Адзін часопіс застаўся. Сцёпкін зірнуў на жонку, але, уздыхнуўшы, безнадзейна махнуў рукой і шпурнуў яго на канапу.

— Яны прачытаюць, Яначка, прачытаюць, — зашчабятала жонка. — Табе, можа, яшчэ чарачку?

— Гэта справа пачакае, — памяркоўна глянуў на жонку Сцёпкін, а потым скіраваў вочы ў бок дзяцей. — А вам, шаноўныя, вось што скажу: калі прачытаеце раман — прыходзьце, зраблю вам падарункі. Але трэба паспець за тыдзень, бо потым я паеду ў Дом адпачынку.

...Праз тры дні дзеці з сорамам у вачах расказвалі Сцёпкіну змест яго новага рамана.

*г. Гомель.*

# ЧАЛАВЕЧЫ ФАКТАР

Хтосьці слова добрае сказаў –
У цябе настрой адразу ўзняўся:
Парабіліся дзясяткі спраў,
І пірог на дзіва смачны ўдаўся.

А парой пачуеш злыя словы
І несправядлівыя зусім –
Ледзьве не заплакаць ты гатовы...
Ды стаіць «прамоўца» на сваім:

«Бачыла, паверце, асабіста!»
І давай гразёю паліваць!
Рвуцца ад напружання маністы,
Так жадае «праўду» расказаць.
І трымціць язык, што хвост авечы,
І ўзлятае ўпэўнена рука...
Вось такі ён, фактар чалавечы –
Так і рвецца ўпрочкі з языка.

Эх, шкада, што фактар чалавечы
Часта шкодзіць і зарэдка лечыць.

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*




**Янусь МАЛЕЦ**

**Паэту**

Пры свячэнні душы –
Прысвячэнні пішы!
А як змрок пры душы –
Свой запал прыдушы.

**2018**

**САКАВІК**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |






Алег ПАПОЎ.




Юрый МІХАЙЛАЎ.




Хочацца пажадаць усім, каб Дзед Мароз прынёс вам цэлы мех радасці і весялосці, а Снягурка адарыла дабром і шчасцем. Навагоднія эльфы няхай выканаюць усе жаданні. І хоць мы з вамі ведаем, што яны не існуюць, хай побач будуць такія людзі, якія з лёгкасцю іх заменяць і напоўняць ваша жыццё чараўніцтвам. З Новым годам!

# Карыкатуры вакол літаратуры














Аляксандр ПЯТРОЎ х 6.




## Правілы паводзін на балконах, ці Скарбы людзей-драконаў

*Міні-фельетон*

Па легендзе цмокі ў сваіх пячорах назапашваюць скарбы. Там і золата, і срэбра, і каштоўныя камяні. Яны пільна ахоўваюць усё гэта, і толькі самыя адважныя рыцары могуць трапіць у такое логава.

Часам і людзі паводзяць сябе, як чароўныя яшчары. Толькі замест пячоры ў іх балкон. Чаго толькі там не знойдзеш! Адна лыжына (а раптам спатрэбіцца?), закаткі (якія яшчэ перабудову бачылі), старое адзенне (няйнакш з рэвалюцыі). Калі пільна прыгледзецца да гэтых «скарбаў», то можна знайсці нават пазалеташнюю ёлку (праўда, ужо даўно без іголак). Навошта ім усё гэта, такія «драконы» адказаць не могуць. Тым больш яны нават не здагадваюцца, што парушаюць закон. Бо існуюць заверагныя нормы, якія рэгламентуюць, чаго нельга рабіць на балконе.

Напрыклад, арганізоўваць склад ці, працей кажучы, заводзіць сметнік. Таксама нельга захоўваць выбухованебяспечныя, лёгкаўзгаральныя, атрутныя і забруджвальныя паветра рэчывы і прадметы. Гэта забараняюць «Правілы карыстання жылымі памяшканнямі, утрымання жылых і дапаможных памяшканняў» — асноўны дакумент для любога ўладальніка кватэры.

Цікавы момант датычыцца вырошчвання хатняй жывёлы. Гэта не забараняецца! Але ёсць адна акалічнасць: козы, трусы, куры, гусі ды хоць індыкі ці поні павінны маўчаць з 23 гадзін вечара да 7 гадзін раніцы. Калі ж гаспадар знойдзе такога маўклівага гадаванца, то прыйдзецца за ім старанна прыбірацца, каб не разводзіць антысанітарыю. За правапарушэнні можна атрымаць штраф, які будзе вызначаны ў залежнасці ад таго, што менавіта гаспадар не прыняў да ўвагі.

Таксама трэба быць уважлівымі тым, хто любіць хадзіць па балконе галышом. Гэта, канешне, не забаронена, але ў такой сітуацыі лепей кіравацца розумам. Калі аголены чалавек разгульвае па сваёй кватэры на першым паверсе шматкватэрнага дома, гэта можа не спадабацца астатнім жыхарам. Яны змогуць выклікаць супрацоўнікаў міліцыі, якія прыедуць і правядуць прафілактычную гутарку.

Да таго ж зусім нядаўна ва ўрад нашай краіны ад Міністэрства гандлю былі накіраваны прапановы забараніць курэнне на балконах. Гэта выклікана шматлікімі скаргамі суседзяў, якія вядуць здаровы лад жыцця і пакутуюць ад дыму. Тым больш здараюцца выпадкі, калі з-за акурка ў дамах узнікаюць пажары.

А з якімі правіламі згодныя вы? Былі ці нават ёсць у вас суседзі-драконы, ці тыя, хто вырошчваў на балконе курэй? А можа, ёсць нейкая смешная гісторыя, звязаная з гэтым? Тады дасылайце яе нам, пасмяёмся разам!




Алег ГУЦОЛ.

**2018**

**КРАСАВІК**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |



Анатоль ЗЭКАЎ

## Вясёлыя вершы, або Песні без нот

### Акно ў маё каханне

Згадаю час юнацтва,
Калі цвіла вясна.
А мне ўсяго шаснаццаць,
І ложак ля акна.

Я з любым на спатканне
Ўцякала праз акно.
Было ажно да рання
Адкрытае яно.

Ці месячык, ці поўня
Свяціліся ў акне,
Не рыпнула ніколі,
Не выдала мяне.

І мамачка не знала
Сакрэт таго акна.
Не знала, што гуляла
Я з любым да відна.

### Песенька шафёра

Еду-еду на спатканне
Па слізгоце, па шашы
Да цябе, маё каханне,
Што і ў сэрцы, і ў душы.

Я шчаслівы і вясёлы,
А завея, як на зло,
То шпурляе снег пад колы,
То цаляе проста ў шкло.

Не прашу падмогі ў ветру,
Каб праклаў да любай след.
Да яе і сам даеду,
Як не вынесе ў кювет.




Аляксандр ШМІДТ.




Пётр КОЗІЧ.




Алег ГУЦОЛ.




# Прадуктыўная варажба

Іранеска

Валянціна і Антаніна ўжо больш за дзесяць гадоў працавалі ў адной установе бухгалтарамі, таму не дзіўна, што з цягам часу сталі сапраўднымі сяброўкамі. Заўсёды дапамагалі адна адной, дзяліліся перажываннямі, абменьваліся парадамі. Шкада толькі, што ў асабістым жыцці жанчынам не шанцавала, хоць і сачылі за сабой, імкнуліся модна выглядаць. І калі Антаніна пабывала замужам, то Валянціна ніяк не магла знайсці другую палавіну. Сяброўкі марылі, што кожная з іх нарэшце знойдзе свайго прынца на белым кані. Таму была ў іх перад Новым годам традыцыя — варажыць. Чаго толькі сяброўкі не рабілі! Угледаліся ў кававу гушчу, абдымалі плот, вылазілі ў акно і пыталіся імёны мужчын. Вось толькі ні адно прадказанне чамусьці не спраўджвалася...

І вось у звычайны снежаньскі вечар у кватэры Валянціны зазваніў тэлефон. Калі яна падняла трубку, пачула ўзбуджаны голас сяброўкі:

— Я ўсё зразумела! Мы ўсё не так рабілі! Цяпер стопрацэнтна даведаемся сваю будучыню! — пралапатала Антаніна.

— І табе прывітанне, а зараз раскажы падрабязней, бо я нічога не ўцяміла.

— Як жа цяжка з табой бывае! Дык вось. Мы звычайна варажылі вядомымі ўсім метадамі, таму ўсё было дарма. У гэтым годзе трэба паспрабаваць нешта новенькае. Я ўжо нават знайшла некалькі спосабаў, — патлумачыла сяброўка Валянціне.

— Добра, я згодная. Толькі нічога не расказвай больш, хай будзе сюрпрыз, — адказала жанчына.

У прызначаны дзень сяброўкі сабраліся на кватэры Антаніны.

— Ну, што ты там адшукала? А то я ўжо не магу фантазіраваць, — з нецярпеннем запытала Валянціна.

— Мы звычайна карысталіся старымі відамі варажбы, а сёння паспрабуем сучасныя, — з агеньчыкам у вачах прамовіла Антаніна. — Я прыгатавалася і адразу ж прынесла ноўтбук. А спосаб такі: «Націснеце на любую кнопку. Якая літара трапіцца, на такую і будзе пачынацца імя вашага мужа. Калі націснеце на «Enter», то ў ЗАГС пойдзеце не адзін раз. Калі ж на «Delete» — застанецеся векавухай».

— І праўда, нешта новенькае! Добра, давай я буду першая, — Валянціна зажмурыла вочы і націснула на кнопку. — Ну, што там?

Абедзве сяброўкі моўчкі ўглядаліся ў клавіятуру і выбраную клавішу. Гэта быў мяккі знак.

— Я не ведаю нават, як гэта растлумачыць. Дай сама паспрабую, — і Антаніна паўтарыла дзеянні сяброўкі.

Тут ужо маўчанне змянілася смехам, бо жанчыне трапілася «ы».

— Ну, мы з табой і ўдачлівыя! Шкада, але на гэты выпадак ніякага тлумачэння няма. А можа, у нас будуць мужчыны з-за мяжы? — з усмешкай выказала здагадку Валянціна.

— Не ведаю, даражэнькая, давай нешта іншае паспрабуем. Вось глядзі, што ў мяне ёсць, — сказала Антаніна і дастала запоўнены пакет для смецця. — Я амаль тыдзень збірала ўсялякую непатрэбшчыну. Умовы такія: трэба вытрасці смецце на падлогу пасярод самага вялікага пакоя. Затым абысці гэтую купку тры разы па стрэлцы гадзінніка, прыгаворваючы: «У вячэрнюю гадзіну хачу даведацца, што чакае мяне ў годзе надыходзячым». Пасля гэтага стаць на смецце (акно павінна апынуцца за спінай) і прыслухоўвацца да гукаў, якія раздаюцца з вуліцы. Калі пачуеш кашаль або чханне, ёсць верагоднасць захварэць. Калі мужчынскі голас данясецца, то хутка ў цябе з'явіцца верны і надзейны сябар.

Давай спачатку я, толькі ціха, каб ніводны гук не прапусціць.

Жанчына выканала абрад і змоўкла. У гэты момант з вуліцы пачулася працяглае «Мяў». Валянціна зноў засмяялася:

— О, кот! Мабыць, у цябе не мужчына з'явіцца, а хатняя жывёліна. Дазволь, я не буду варажыць, а то мне толькі ката ў кватэры не хапала!

— Вось і не трэба! Тады трымай цюбік зубной пасты і міску з вадой. Вазьмі яго ў левую руку і спакойна выцісні змесціва. Пасля ўбачым, што за фігурка атрымаецца і зазірнём у соннік, — сказала Антаніна і пачала ўважліва сачыць за сяброўкай.

Тая ж старанна выконвала ўмовы, але атрыманая фігура прымусіла яе зноў засмяяцца:

— Ведаеш, я нават тлумачэнне не хачу глядзець, у мяне сабака такія фігуркі на прагулцы пакідае. Што ў цябе яшчэ ёсць?

— Адно засталося. Трэба ачысціць яблык вострым нажом, каб лупіна

атрымалася адной непарыўнай стужкай. Потым кінуць яе праз левае плячо, задаўшы сваё пытанне. Калі лупіна ўпадзе на падлогу і ўтворыць нешта падобнае на літары А або У, то адказ адмоўны. Любы іншы ўзор — адказ станоўчы, — падзялілася Антаніна.

— Ведаеш, хопіць эксперыментаў. Я пасля зубной пасты ўжо баюся спрабаваць нешта новае. У мяне ідэя: пойдзем лепш на вуліцу боты кідаць. Хоць даведаемся, з якога боку прынцаў сваіх чакаць, — прапанавала Валянціна.

Сяброўка адразу згадзілася, яны апрануліся і выскачылі з кватэры. Спыніліся каля пад'езда.

— Становімся спінай да дарогі, лічым да трох і кідаем. Згодная? — запытала Антаніна.

— Канешне. Раз, два тры!

І боты паляцелі. Вось толькі амаль адразу за спінамі пачуліся мужчынскія галасы:

— Жанчыначкі, вы чаго ў нас абуткам шпурляеце, мы ж вам нічога не зрабілі!

Сяброўкі адначасова азірнуліся і ўбачылі двух рыцараў з катом на руках. Першай знайшлася Валянціна:

— Ой, прабачце нас, калі ласка! Мы тут... паваражыць надумалі, а вас не заўважылі, — і, каб хутчэй змяніць тэму, прамовіла: — А што вы на вуліцы з катом робіце?

— Ды мы з напарнікам у гэтым доме кватэру здымаем. А кот вырашыў прагуляцца, мы і шукалі яго, — расказаў адзін з мужчын.

Другі ж адразу знайшоўся:

— А ведаеце што, варажбіткі, вы на нас тут ботамі кідаецеся, ледзь не прыбілі. Таму патрабуем кампенсацыі: заўтра запрашаем вас на каву.

Жанчыны пераглянуліся, засаромеліся, але далі згоду.

— Добра, тады пакіньце нумар тэлефона, а мы вам пазвонім і дамовімся. А зараз прабачце, трэба бегчы, бо кот замерз зусім.

Памахаўшы рукой, мужчыны зніклі ў суседнім пад'ездзе.

— Ведаеш, сяброўка, мабыць, гэта наша першая прадуктыўная варажба. Тут табе і кот, і адзін з пузікам, быццам мяккі знак, — усміхалася Валянціна.

— І не кажы, сама не веру ў такія супадзенні, але мне здаецца, што гэта не проста так, — загадкава адказала Антаніна. — Заўтра паглядзім, якія там рыцары. А калі не спадабаюцца, то хоць кожны дзень можам так хадзіць і кідаць боты. Метад, здаецца, працуе.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

**2018**

**МАЙ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |






Алег ПАПОЎ.




Паднімем фужэры за Дзеда Мароза і Снягурку. Колькі сябе памятаю, яны не хварэюць, не старэюць і грошы на падарункі заўсёды маюць! За тое, каб мы таксама былі такімі!

7 серыя

# Серыял Вожыка ПАДМАНАМАНІЯ

## Новы год без клапот...
















Што надумалі! Новы год з несапраўднай ёлкай сустракаць.


Ёлачны базар
Сапраўднае яно лепшае!


Гэта – тое, што трэба!


Дома…
Вось! Упрыгожвайце!
Які прыемны водар!


Гэта вам не пластык!
Ну, дык…


Праз некаторы час…
Шу-у-ух!
?!
Ё!


Штучная, але на доўгі час будзе. І елкі ў лесе цэлыя, і штогод грошы не трэба плаціць.
Усё!




Алег ГУЦОЛ.




Даў бы карысную параду па прафілактыцы склерозу, але не магу ўспомніць.

Беражыце граблі — крыніцу мудрасці.

Мала мець ключ да поспеху, трэба яшчэ і дзвярамі не памыліцца.

Кожнае пакаленне пакідае пасля сябе ўсё менш прыродных рэсурсаў і больш інфармацыі. Усё ідзе да таго, што будучым пакаленням нічога не застанецца, як дыхаць і харчавацца інфармацыяй.

**Афарызмы Рафат Шакір-Аліева (Аўстралія).**

**На беларускую мову пераклаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

**2018**

ЧЭРВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | |






## Не брудны, але паскудны

Калі б не сувязі, ні ў якім разе
Прабіцца б не ўдалося з гразі ў князі.
Ды ў тым бяда, што гэты псеўдакнязь
Нават сяброў цяпер кідае ў гразь.

## Час без прыўкрас

Час — найлепшы з усіх педагогаў,
Ён прыносіць нам мудрасці многа.
І выхоўвае, і настаўляе,
Толькі... у рэшце рэшт — забівае.

## «Рэпка» па-сучаснаму

Чыноўнік Рэпка звольніў неяк Жучку,
Пасля, нягоднік, выкінуў і ўнучку,
Далей — па спісе: кошка, мыш, бабуля...
І дзед замест пасады ўбачыў дулю.
Пацёршы рукі, ён сказаў: «Пранесла!
Цяпер ніхто мяне не вырве з крэсла!»

## Прыхільнік Дарвіна

Ён кніжкі Дарвіна любіў
І інтэлектам ганарыўся.
Хоць хвост даўным-даўно згубіў,
Ды ім віхляць не развучыўся.

**Уладзімір ГРЫШЧАНКА,**
*г. Гомель.*

**Міхась СЛІВА**



# Нікуды без гасцей

*Гумарэска*

— Слухай, Сеня! — звярнулася да мяне жонка. — Хутка Новы год, давай абмяркуем, як будзем яго сустракаць!

— А што тут думаць, — спакойна адказаў я. — Як заўсёды да нас у госці прыйдуць Кабатавы ўсёй сям'ёй, Пеўневы з цешчай ды Арцёменкі з дзецьмі.

— Дык цяпер жа госці быццам стыхійнае бедства! — не вытрымала жонка. — І алкаголю трэба шмат, і закускі, а ўсё такое дарагое! А колькі іншых клопатаў! Давай лепш зробім так: патэлефануем усім і скажам, што пойдзем у госці да майго стрыечнага брата. А самі з дзеткамі пасядзім каля ёлкі пад гукі тэлевізара. Хоць раз адсвяткуем без турбот, без шуму і гаму!

Так мы і зрабілі: паведамілі сваім знаёмым, што на гэты раз самі пойдзем у госці, і з палёгкай выдыхнулі...

А трыццаць першага снежня ў абед у нашу кватэру пазванілі. Адчыняем дзверы — на пляцоўцы стаіць уся вялікая сям'я Кабатавых.

— Мы так рады, што засталі вас дома! — у адзін голас усклікнулі муж і жонка, запускаючы ў нашу кватэру дзяцей. — Хочам правесці стары год з вамі, пасядзець разам, пакуль вы збіраецеся ў госці...

Давялося нам рассаджваць нязваных гасцей. Толькі ўладкаваліся за сталом і налілі па чарцы — завіталі Пеўневы разам з цешчай. А неўзабаве да нашай кампаніі далучыліся і Арцёменкі.

— Мы вырашылі пасядзець у вас, пакуль вы не пойдзеце ў госці, — сталі яны тлумачыць свой прыход, дастаючы пачастункі.

— Праходзьце, прысаджвайцеся! Вельмі рады, дарагія госцейкі! — пераглянуліся мы з жонкай. — Дзеля вас сёння мы ўжо нікуды не пойдзем...

— А ўсё ж такі, Сеня, прыемна, што да нас людзі цягнуцца! — гаварыла мне жонка на другі дзень. — І ежы ўсім хапіла і павесяліліся. Будзе што ўспомніць. А адпачыць пад тэлеперадачы толькі сям'ёй можна і сёння.

*г. Рагачоў.*




Алег КАРПОВІЧ.




Алег ГУЦОЛ.




## Шыкоўная жанчына



Кузьма зусім адзін, не радуе дамоўка,
Даўно пайшла з жыцця неспадзявана жонка.
Ды ходзіць нездарма выказванне такое,
Што кожны, хто жыве, той дбае пра жывое.
Нагледзеў ён сабе суседку неблагую –
Раптоўна ж лёс паслаў жанчыну маладую.
Знаёміцца сама прыйшла к яму дадому
І жыва завяла з гаспадаром размову.
– Анёлак, раскажы, з якога будзеш свету?
– Прыехала здалёк. Але няважна гэта.
– Ты ж бачыш: я стары. Між намі будзе згода?
– Каханню, любы мой, узрост – не перашкода.
Лепш, пупсік дарагі, нясі хутчэй талеркі:
Прывезла закусіць, прывезла і гарэлкі.
Кузьма не ласы быў да гэтакае ўцехі,
Але ж у момант той нібыта з глузду з'ехаў.
Як толькі паглядзеў на маладое цела,
Аслаблі ногі ўраз, ды і ў вачах сцямнела.
Была ці не была! Няхай зайздросцяць людзі:
Што жыў на свеце белым, шкадаваць не будзе...
Ён ледзьве апрытомнеў пасля п'янкі,
А след даўно прастыў яго каханкі.
Забрала грошы (іх было нямала),
Яшчэ і футра дарагое ўкрала.
Кузьма ляжыць з інфарктам пасля скрухі,
Не хоча больш шыкоўнай маладухі!

Не буду іншым я даваць парады,
Ды ёсць у гэтым вершы доля праўды.



**Антаніна РЫБАЛКА,**
*Петрыкаўскі раён,*
*п. Муляраўка.*

## Настрой

Перавярнуць магчыма горы,
Як адпаведны ёсць настрой.
Калі знаходзішся ў гуморы,
Тады ўсё робіцца з душой.

Настрой узнёслы нас натхняе
Адчуць магчымасці свае,
Заўсёды поспеху спрыяе,
Жыццёвай моцы надае.

Псаваць імпэт не трэба людзям
У іх будзённасці зямной.
Няхай у справах з намі будзе
Бадзёры, радасны настрой!

**Генрых ТАРАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*



## Малюнак чытача




Тамара РАДАВАНАВІЧ.

## Стары ці Новы – святкуем без стомы!

Без возу праблем і без скрыні клапот
У госці ідзе малады Новы год.
Стары на падлетка зялёнага гляне –
Паціху растане, нібыта ў тумане.

Са студзеня Новы патроху мацнее
І кружыць у вальсе на пару з завеяй.
Але на трынаццаты студзеня дзень
Глядзі: ля варот капытом б'е алень.

На возе сядзіць – хоць ты вочы пратры –
Нібы Новы год, але ён жа – Стары...
І гэта не байка, і гэта не жарт:
Дзядок мае спрытнасць, і сілу, і гарт!

Таму Стары год мы з усмешкай вітаем,
Яго за багатым сталом сустракаем.
Святкуем без стомы, пры гэтым гаворым:
Няхай і Стары, ды, галоўнае – Новы!

**Жэльміра КУШНЕР,**
*г Мінск.*



Юрый МІХАЙЛАЎ.



Анастасія СКАРКО і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Давайце падымем фужэры за 365 дзён, якія чакаюць нас наперадзе, за 365 магчымасцяў, за 365 новых старонак жыцця, за 365 цудаў, якія з намі здарацца! За Новы год, які ўсё нам гэта падорыць!

**2018**

**ЛІПЕНЬ**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |






Алег ПАПОЎ.

## Вершаваны анекдот

Нявестка – бо на сэрцы скруха –
Задумалася на хвіліну
І не пачула, як свякруха
Гаворыць штосьці пра скаціну.

– Каторы раз цябе пытаю:
Скаціну ты карміць хадзіла?
Нявестка ж у адказ – з адчаем:
– Шчэ спіць ваш сын! Я не будзіла.

**Даслаў Зміцер ВОЛЬСКІ,**
*Валожынскі раён,*
*г.п. Івянец.*




Алег КАРПОВІЧ.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Вясёлыя вершы, або Песні без нот

### Воўка-аднакласнік

З цеплынёй успомню
Незабыўны час,
Як хадзілі, Воўка,
Мы ў чацвёрты клас.

Непаседа Воўка,
Помніш ты ці не,
Як заўжды дыктоўку
Спісваў у мяне;

Як на ўроках тузаў
Мае коскі ты?
Колькі мне парумзаць
Выпала тады!

За твае прыдзіркі
Я ўсё ж не злую,
Бо, хоць і з памылкай,
Мне пісаў «лублю».

2018

ЖНІВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |



# Анекдоты

Мала хто ведае, але для ўпрыгожвання кватэры на Новы год дастаткова кінуць петарду ў вінегрэт!

* * *

Пасля сустрэчы Новага года мужчына на вуліцы звяртаецца да міліцыянера:

– Як дайсці да вакзала?

– Ідзіце прама і нікуды не паварочвайце.

– Ну, значыць, мне туды не трапіць.

* * *

Навагодняя ноч. П'яны муж звоніць у дзверы. Яму адкрывае жонка. Ён заходзіць, акуратна зачыняе за сабой дзверы, паварочваецца спінай да жонкі і кажа:

– Мне на сёмы.

* * *

Па старадаўняй традыцыі пасля сустрэчы Новага года ў многіх людзей у кашальках застаюцца толькі адбіткі пальцаў.

* * *

У халадзільніку нічога не чапай. Гэта на Новы год.

– Дык там нічога і няма.

– Там надзеі на светлую будучыню. І шашлычны кетчуп.

* * *

– Тата, здагадайся, які цягнік больш за ўсіх спазняецца?

– Не ведаю, сынок.

– Той, які ты абяцаў мне падарыць яшчэ на мінулы Новы год.




Алег ГУЦОЛ.

* * *

Шмат варыянтаў, дзе я сустрэну Новы год: дома або дома, а можа быць дома, або ў крайнім выпадку – дома.

* * *

– Я сваёй на Новы год падарыў дыяментавыя завушніцы, а яна мне самы звычайны адэкалон...

– А ты таксама хацеў дыяментавыя завушніцы?

* * *

Чэмпіёна па зборы кубіка Рубіка выпадкова пакінулі аднаго за навагоднім сталом, і ён за дзесяць хвілін сабраў з салаты Аліўе паўкіло доктарскай каўбасы, пяць вараных бульбін, тры морквы, пяць яек, чатыры салёныя агуркі, банку зялёнага гарошку і пачку маянэзу.

* * *

Ідзе Дзед Мароз. Насустрач крочыць маленькая дзяўчынка і кажа:

– Добры дзень, дзядуля.

– Прывітанне, унучка, з надыходзячым святам! Толькі падаруначка ў мяне для цябе няма.

– Нічога, дзядуля. Я і ад грошай не адмоўлюся.

**2018**

**ВЕРАСЕНЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |






**Лёля БАГДАНОВІЧ**

# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ГУЗІКІ

*Казка*

Жыў некалі адзін дужа злосны чалавек. І ўсё было яму не так. Бывала, усміхнецца сонейка ўранку – злуецца, што разбудзіла яго. Выспее ў небе вясёлка пасля дожджыка, усе не нарадуюцца на гэткую прыгажосць, а ён бурчыць сабе пад нос:

– Гэткае дзіва знайшлі, падумаеш.

Ну, дожджык, вядома, не кожнаму падабаецца. Але снег... Такі лёгкі, пушысты, чысты! Нібыта пер'е, павольна падаюць прыгожыя сняжынкі. Прахожыя ловяць іх у далоні, дзеці лепяць снежную бабу, коўзаюцца з гары, кідаюцца снежкамі. А яму зноў кепска:

– Вось як намяце зараз, шуфлем не ўправімся махаць.

...Па суседстве з гэтым чалавекам жыў зусім іншы. Ён радаваўся ўсяму: ноччу – месяцу і зорачкам, днём – сонейку і вясёлцы. Калі дожджык сыпане, казаў:

– От, напоіць дождж зямельку, будзе ўраджай добры. Няхай сабе ідзе. І снегу радаваўся, вазіў унукаў на санках, хадзіў разам з імі на лыжах у лес.

– І чаго ты такі шчаслівы, га? Чаму заўсёды радуешся? – кожны раз здзіўляўся злосны.

– А ты і праўда не разумееш ці прыкідваешся? Як жа не радавацца? У мяне добрыя дзеткі і ўнукі. Сонейка ласкавае, вясёлка прамяністая, зорачкі ў небе ясныя, дожджык вясёлы і сняжок чысты.

– І ўсё?

– Чаму ўсё? І Новы год хутка. І Каляды.

– А навучы і мяне радавацца, – папрасіў злосны чалавек, – дужа надакучыла бурчаць увесь час.

– Тут няма чаму асабліва і вучыцца, – усміхнуўся ў адказ сусед, – ты толькі пастарайся палюбіць усіх і ўсё навокал. І табе адразу стане лёгка і радасна. А каб не забываўся на мой наказ, дам я табе два гузікі. Адзін чорны, а другі чырвоны. Не простыя гэта гузікі, а незвычайныя. Калі зашпіліш сваю кашулю на чырвоны гузік, будзеш радавацца жыццю. А калі забудзешся і зашпіліш на чорны, зноў станеш буркуном.

Схапіў злосны чалавек тыя гузікі. Прыбег дадому. Прышыў іх на кашулю ды зашпіліўся на чырвоны гузік. І што вы думаеце? Уся злосць некуды падзелася. Усміхнуўся ён сам сабе. Аказваецца, зусім нескладана быць добрым і радасным. Трэба толькі вельмі гэтага захацець!

*г. Барысаў.*









«Трэнер», Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Віктар КОХАН.

2018

КАСТРЫЧНІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |





Аляксандр ПЯТРОЎ.



Юрый МІХАЙЛАЎ.

# Цудадзейная бульба

*Гісторыйка*

Лаўрэн збіраўся ў магазін і скардзіўся жонцы Настусі:

– Вось што за зімы пайшлі! Ні табе снегу, ні табе маразоў. Нейкая восень, а не самая сцюдзёная пара года.

– Ну што ж, з прыродай не паспрачаешся, – адказвала тая. – Ты б хоць шалік на шыю закруціў, не малады ўжо. Захварэеш яшчэ!

– Ды па такой зіме нават верхнюю вопратку можна не надзяваць. Ды і ніякая хвароба да мене не прычэпіцца, – махнуў рукой мужчына.

І хто яго за язык цягнуў? Быццам прыгаварыў тую прастуду. Ужо пад вечар забалела ў горле, галава стала цяжкай, быццам чыгун, а потым і кашаль пачаўся.

– Ты такі неслух! Казала ж, што трэба апранацца цяплей, – лаялася жонка. – Цяпер лячы цябе!

Жанчына заварыла ў гаршчочку нейкія зёлкі, зрабіла напой з ліпавым мёдам, дала выпіць. Стала трохі лягчэй, але ненадоўга.

– Заўтра да ўрача пойдзеш, – сказала жонка. – А сёння яшчэ адзін сродак паспрабуем.

Настуся дастала з-пад прыпечка вялікі чыгун, насыпала туды бульбы і паставіла ў печ. Калі клубні зварыліся, жанчына паставіла чыгун на ўслончык, прымусіла мужа нахіліцца над ім, накрыла зверху ручніком і загадала:

– Дыхай! Лячыся! А я пакуль гаспадарку пайду дагледзець.

Дзесьці праз паўгадзіны жанчына вярнулася з падворка ў хату і бачыць, што муж яшчэ лечыцца.

– Ну, ужо даволі, – сказала Настуся і заглянула ў чыгунок. – А куды ж бульба падзелася?

– Цябе так доўга не было, а ад яе такі водар прыемны ішоў, што я з'еў... – разгублена паціснуў плячамі Лаўрэн. – А што, нельга было?

– Дык я ж не есці табе сказала, а парай дыхаць! Няправільна ты лячыўся! – злавалася жонка.

– А адкуль ты ўзяла? Мой арганізм лепш ведае, што яму патрэбна: есці бульбу ці дыхаць парай!

– Ай, як атрымалася, так і добра, – махнула рукой Настуся.

Можа, цуд, а можа, і не, але на наступны дзень хвароба адступіла. Палягчэла галава, горла перастала балець, зніклі кашаль і насмарк.

Лаўрэн усміхаўся і гаварыў:

– Я ж казаў, што да свайго арганізму прыслухоўвацца патрэбна!

З той пары, як толькі ў мужчыны з'яўляліся першыя сімптомы хваробы, ён прасіў жонку зварыць яму бульбы. І смачна, і прастуда адразу ж знікала.

**Галіна ГУЗЯНКОВА,**
*г. Гомель.*

# Новы год – к вясне паварот!

**Па гарызанталі:**

**2.** «Змоўкла пушча, сціхла бура, \\ Зоры замігалі. \\ І зямля і лес пануры \\ Новы ... віталі *(з верша Я. Коласа «Пад Новы год»)*. **3.** Хай бульба родзіць, хай ... ходзіць, хай патэльня трашчыць, на ёй скварка пішчыць *(навагодняе пажаданне)*. **5.** Калі ў ноч на Раство неба зорнае, то будзе добры прыплод жывёлы і багаты ... ягад *(прыкмета)*. **6.** Спартсмен, які пакарае вяршыні гор. **8.** «Новы год – і госці зранку \\ Прыляцелі ў ... да Янкі. \\ Снег ідзе, мароз трашчыць, \\ Цяжка птушкам бедным жыць» *(з верша М. Сазончыка «Госці»)*. **9.** ... у коміне слупам – да халадоў *(прыкмета)*. **10.** «Упрыгожаная ... \\ Зіхацела, як вясёлка. \\ І запляскалі ўсе ў ладкі, \\ І наўкруг пайшлі ў прысядкі» *(з верша У. Мацвеенкі «Ёлка-вясёлка»)*. **11.** «Ледзьве холад на парог, \\ Мішка ... у свой бярлог» *(з верша Р. Барадуліна «Як звяры зіму сустракаюць»)*. **12.** Новы год – к вясне ... *(прыказка)*. **16.** «Кожны раз пад Новы год \\ Ладзяць ёлкі ...» *(з верша Ф. Ляшонка «Пад Новы год»)*. **17.** Каб нажалі ... коп жыта, каб сям'я была ўся сыта. Каб скацінка вадзілася, каб пшаніца радзілася! *(каляднае пажаданне)*.

**Па вертыкалі:**

**1.** Вячоркі на Піліпаўскі пост, падчас якіх прадуць *(размоўнае)*. **3.** Чорная вугальная фарба арганічнага паходжання. **4.** Рэдкая афрыканская жывёліна сямейства жырафаў. **6.** Надышлі Калядкі – бліны ды ... *(прыказка)*. **7.** ... кажа «годзе», а вочы – «яшчэ!» *(прыказка)*. **13.** Род даўгахвостых папугаеў. **14.** Поўны круг вярчэння. 15. Слова, якое абазначае здзіўленне.




**Адказы:**

**Па гарызанталі:** **2.** Год. **3.** Чарка. **5.** Ураджай. **6.** Альпініст. **8.** Сад. **9.** Дым. **10.** Ёлка. **11.** Шусь. **12.** Паварот. **16.** Караход. **17.** Сто. **Па вертыкалі:** **1.** Попрадкі. **3.** Чарнь. **4.** Акапі. **6.** Аладкі. **7.** Грыбух. **13.** Ара. **14.** Абарот. **15.** Ого.

**Склаў Лявон Целеш.**
*г.Дзяржынск.*



Ён быў звычайны
Небарака:
Не меў ні хаты,
Ні барака.

* * *

Я з лука выпусціў
Пяць стрэл,
Ды халастым быў
Кожны стрэл.

* * *

У лазні,
Трапіць каб у душ,
Сядзела шмат
Нямытых душ.

**Даслаў**
**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

| 2018 | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ЛІСТАПАД | | | | | |
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |



## ПРЫПЕЎКІ

**Мікола САЛАЎЦОЎ**

Я гляджу, як гандляры
Зранку завіхаюцца.
Каля іх мае сябры
З цэнамі спрачаюцца.

* * *

Не купляю макаронаў
І крупы я маннай,
Бо ў нас цэны, як вароны,
Скачуць пастаянна.

* * *

Панталоны я купіла
І залезла у даўгі.
Зельцам страўнік свой набіла,
З крапівы ем пірагі.

* * *

Толькі сніцца мне бекон,
Мару я пра сальца...
Паступова, нібы слон,
Стаў вегетарыянцам.

* * *

Для сям'і маёй, каб жыць,
Мала ўжо зарплаты.
На цукеркі сын глядзіць,
Як на экспанаты.

* * *

Мы вас просім, як нябогі,
З сатырычнай сцэны:
Збіце сквапным людзям рогі,
Утаймуйце цэны!



*Віншуем нашага шчырага сябра і пастаяннага аўтара з 80-годдзем! Творчага плёну Вам, Мікалай Іванавіч САЛАЎЦОЎ, бадзёрасці і аптымізму на доўгія гады!*

Шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Вясёлы слоўнік

Мабільнік — ваенкамат, які аб’явіў мабілізацыю.



Стрэлачнік — гадзіннік, а таксама Амур.



Аўдытар — уладальнік аўтамабіля «аўдзі».



Шляхцюк — чыгуначны абходчык.



Свінец — парсюк.



Раіцца — жыць у раі.



**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

**2018**

**СНЕЖАНЬ**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |



«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
16+
№ 12 (1551), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.
Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ
Камп’ютарная вёрстка: Дар’я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана да друку 04.12.2017. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,40. Тыраж 825 экз. Заказ .
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Віктар КОХАН.